# Пачатак беларускае прэсы

Гісторыя беларускае прэсы дагэтуль блізу зусім недасьледжаная і найменш апрацаваная галіна беларускае слаўнае культуры. Таму беларускае грамадзтва памылкова лічыць пачаткам беларускае прэсы толькі 1862 год, калі зьявілася і шырака распаўсюджывалася на Бацькаўшчыне **першая беларуская друкаваная газэта «Мужыцкая Праўда»** рэдагаваная Кастусём Каліноўскім, слынным «дыктатарам Літвы і Беларусі».

Кажны дасьледчык беларускага друку наогул і гісторыі беларускае прэсы асабліва, яскрава ўбачыць, што пачатак беларускае прэсы сягае амаль на 300 год назад у нашай гісторыі, бо

**ПАЧАТКАМ БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА 1573 ГОД,**

калі быў зрэдагаваны першы ліст г. зв. «ОДПІСАЎ» Філона Кміты.

ФІЛОН КМІТА будучы старастам на ўзьмежку беларускае зямлі ў Воршы й Смаленску, выконваў там цяжкую службу вартаўнічага паўночна-усходніх межаў Беларусі, якія стала знайходзіліся пад пагрозаю маскоўскага нападу. Вось там, у Смаленску — першай гістарычнай сталіць Крывічоў, Філон Кміта зарганізаваў даволі шырокую сетку весткавае службы. Пры вельмі спрытна і на той час добра зарганізаванай і хуткай сыстэме Кміта меў сваіх дапішчыкаў-«шпегаў» ня толькі па ўсяму ўзьмежжу беларускае зямлі, але таксама ў Маскоўшчыне і навет у Польшчы, якая тады была фэдэратыўна зьвязанаю з нашаю Бацькаўшчынаю. Магчыма некаму зажадаецца назваць гэтую арганізаваную Філонам Кмітам **першую весткавую службу — беларускую** — як гэта ўжо і спрабавалі «гісторыкі» небеларусы, шпегоўствам, што аднак зусім не пярэчыць цьверджаньням, але толькі сьцьвярджае і падмацоўвае нашую тэзу. Ўся дзейнасьць кажнага дапішчыка і кажнае інфармацыйнае сучаснае прэсавае службы зьяўляецца адначасна і пераканаўча падмацаваньнем вышэйсканага ад дзейнасьці і працы Першае Беларускае Весткавае Службы Філона Кміты.

З атрымліваных вестак ад сваіх людзей Ф. Кміта добра ведаў палітычнае і гаспадарчае становішча ня толькі Беларусі, але магчыма яшчэ лепей Маскоўшчыны і нават Польшчы. Вось гэтыя сабраныя весткі Кміта **сыстэматычна** і старанна адпісваў і перапісваў у Дзяржаўную Раду — «паном радным» — **свае паведамленьні і весткі** ці, якназываў іх ён сам

**«ОДПІСЫ».**

У «Одпісах» зьмяшчаліся важныя і патрэбныя весткі аб беларускай і закардоннай палітыцы. Трапляюцца там весткі нават аб адносінах маскоўцаў да перкопскіх татараў, аб нарадах маскоўскага князя з сваймі баярамі, аб ураджаі ў Маскоўшчыне і інш. За адданую і шчырую патрыятычную працу дзеля дабра і славы Бацькаўшчыны, за заслугі зробленыя беларускаму гаспадарству, Кміта быў ушанаваны сэнатарствам з тытулам **смаленскага ваяводы.** Як абаронца незалежнасьці і цэласьці беларускага гаспадарства Філон Кміта ўвайшоў у гісторыю нашае Бацькаўшчыны, але як першы арганізатар беларускае весткавае службы, як пачынальнік беларускае прэсы ён увойдзе і ў гісторыю беларускае прэсы й нашае слаўнае мінулае культуры.

ОДПІСЫ праіснавалі на працягу амаль двох год 1573—1574 і ўсяго пакуль іх ведама 31 нумар, якія захаваліся да нашых дзён. Да захопу ў Маскоўшчыне ўлады бальшавікамі ОДПІСЫ перахоўваліся ў бібліятэцы Дэпартамэнту Расейскага Генэральнага Штабу ў Петраградзе, а пасьля гэтага былі залічаны ў сакрэтны аддзел у адным з аріхваў Ленінграду. Доступ да іх, відаць, зачынены, бо дагэтуль ніводзін з дасьледчыкаў беларускае культуры ў СССР, дзе натуральна мусілі-б імі зацікавіцца, нават не ўспамінае.

Дакладны назоў Одпісаў:

РЕИСТРЪ СПИСАНЬЯ ТАРМЕНЪ, КОТОРЫЕ ЕСМИ ЛИСТЫ ЧЕРЕЗЪ ПОСЛАНЦЫ МОИ, ДАЮЧЫ ВЕДОМОСТЬ О КНЯЗИ ВЕЛИКОМ И О НОВИНАХ, О КОТОРЫХ МНЕ ШПЕГИ МОИ ЗЪ ЗЕМЛИ ЕГО НЕПРІЯТЕЛЬСКОЙ МОСКОВСКОЙ ВЕДАТИ ДАВАЛИ...

(Загаловак падаецца па Е. Карскаму).

Хай нас не палохае, як гаварылася ўжо вышэй, ні даўгі назоў, ні спатыканае ў ім слова «шпегі». Гэта поўнасьцю зразумела і ў той час першых крокаў прэсавае весткавае службы, ня толькі ў нас на Бацькаўшчыне, але і на Захадзе, аб усходзе (Маскоўшчыне) наагул ніякай гутаркі і быць ня можа, інакш назваць дапішчыка, пры тагачасным багацьці старадаўняга беларускага лексыкону, зразумела і не маглі. Калі мы зірнем у гісторыю прэсы Захаду, дык пабачым тыя самы зьявы, а таму гэта ня можа нічым супярэчыць лічыць адпісы першым беларускім часапісам.

Што-ж тычыцца адсутнасьці прынятае сяньня ў кажным пэрыядычным выданьні парадкавае нумарацыі і формы, дык гэта наагул не падлягае дыскусіі. Калі мы параўнаем з ОДПІСАМІ першыя газеты на захадзе Эўропы, дык пабачым нават некаторую дасканаласьць нашых Одпісаў.

Гэткае-ж зьявішча знайходзім і ў гісторыя ангельскае прэсы, аб чым шырэй затрымліваюся ў маёй працы па гісторыі ангэльскай прэсы, каторая друкавалася ў органе СБЖ «Вольным Слове» (гл. №№ 7—15).

ОДПІСЫ зьяўляюцца дакумантамі гісторыі Беларусі, гісторыі беларускае культуры і гісторыі беларускае прэсы, якія характарызуюць ня толькі нашае грамадзянства XVI стагодзьдзя й нашыя тагачасна палітычныя суадносіны з суседзямі, але вельмі шмат даюць і для характарыстыкі Маскоўшчыны ды Польшчы. Гэта — журналы й обэліскі нашае старадаўняе культуры, якія крыюцца нашымі ворагамі, ад нашых дасьледчыкаў, таму й няведамыя шырэйшаму грамадзтву. Апрача ўсяго іншага і першараднага значаньня для гісторыі беларускае прэсы, ОДПІСЫ маюць таксама літаратурна-навуковую вартасьць, асабліва для мовазнаўцаў. Гэта не сухія весткі, але цікавыя і вобразна-жывыя пераказы паведамленьняў дапішчыкаў-«шпегаў», купцоў, перабежчыкаў і інш. людзей. Мовазедам ОДПІСЫ цікавыя будуць тым, што на іх можна будзе лёгка і дакладна дасьледзіць некаторы ўплыў маскоўскае гаворкі на людзей, якія карацей ці даўжэй жылі ў Маскоўшчыне і наадварот, як і пакінуты імі крывіцкі ўплыў на маскоўскую гаворку.

Асабліва-ж павучальным і карысным будуць дасьледаваньні ОДПІСАЎ для нашых часапісцаў, бо там яны атрымаюць шмат карыснага, хоць бы дзеля ўжываньня загалоўкамі пэрлаў нашае народнае мудрасьці — прыказак, якімі Одпісы асабліва багатыя. Для прыкладу падам тут колькі іх, як загалоўкі: «Як даробіць ліха, прарэжуцца й зубы», «Ні думалі, ні гадалі, — гаспадарам нарадзілі», «Калі ўтапілі, тапор давалі, а выплаўшы — ні тапарышча», «Тая баба надвое варажыла» і шмат інш. Як бачым, усе яны і сяньня жывыя ў нашым народзе, да таго-ж вельмі надаюцца і дзеля загалоўкаў артыкулам аб нашай эміграцыйнай сучаснасьці, якія часам маюць зусім неапрацаваныя і нічога ня кажучыя загалоўкі.

Беларускае грамадзтва на эміграцыі будзе ў наступным годзе абыходзіць спалучаныя ўгодкі **першае беларускае газэты «Мужыцкая Праўда»** і 380-тыя ўгодкі беларускае прэсы ды спадзяецца да таго часу атрымаць ад нашых гісторыкаў і часапісцаў вялікшых працаў як аб адным, гэтак і другім. Гэта і абавязак нашых навуковых інстытуцыяў на эміграцыі і Саюзу Беларускіх Журналістых.

**М. Вольны.**

# Руіна сельскае гаспадаркі у БССР

(Заканчэньне)

доўлі. Праўда, «у калгасах пагалоўе буйнай рагатай жывёлы з 1 студзеня 1949 году па 1 жніўня 1952 г. вырасла ў 2,5 разы, у тым ліку кароў — у 4,6 разы; пагалоўе сьвіней — у 5,9 разы, авечак і коз — у 3,5 разы, птушкі — у 2 разы, коней — у 2,8 разы. У грамадзкім статку калгасаў на 1 жніўня 1952 г. ёсьць буйнай рагатай жывёлы на 62% больш, а свіней і авечак у два разы больш, чым было ў даваенным 1940 годзе». На першы пагляд, рай дый годзе! Але тут гэты шыбкі прырост калгаснай жывёлы можна вытлумачыць толькі тым, што на гэты пэрыяд часу якраз прыпадае наінтэнсыўнейшы працэс калектывізацыі ў заходніх акругах рэспублікі, калі ў калгасныя хлявы была загнаная ўся собская сялянская жывёла.

Але цікава тут ня гэта, але тое, як гэтая жывёла даглядаецца пры сыстэме калгаснай паншчыны. Вось адзін з красамоўных фактаў: «У некаторых выпадках страты паголоўя жывёлы перавышаюць разьмеры прыплоду, як гэта здаралася, прыкладам, у ходзе зімоўкі 1950—51 г.г. ў калгасах Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай акругаў».

Ня лепшы можа быць стан і ў наступную зіму, бо, як чытаем у справаздачы, «вельмі сур'ёзную трывогу выклікае нездавальняючае становішча з накапленьнем кармоў для грамадзкай жывёлагадоўлі. Пляны сенакашэньня й сіласаваньня ня выканаты, а сеяных траў і карняплодаў у нас вельмі мала».

Каб закончыць з калгасным хаосам у Беларусі, трэба прывесьці яшчэ адно месца з прамовы Патэлічава: «ЦК КП(б)Беларусі лічыць неабходным даложыць зьезду, што з прычыны нашай бесклапотнасьці сярод парушальнікаў статуту (селькагаспадарскай арцелі — Я. К.), раскрадальнікамі калгаснага дабра аказаліся навет некаторыя сакратары райкомаў, старшыні райвыканкомаў, пракуроры і другія работнікі». Тут дык узапраўды выканалі й перавыканалі!

Нельга ўявіць, каб віной усяму гэтаму калгаснаму балагану й хаосу, безгаспадарнасьці, нізкаму ўзроўню сельскае гаспадаркі была толькі савецкая калгасная сыстэма сама ў сабе, хаця, бясспрэчна, у гэтым крыецца аснаўная прычына такога руіннага стану сельскае гаспадаркі на Беларусі. Але апрача гэтага, ёсьць і іншая прычына, аб якой з палітычных меркаваньняў ня выпадала гаварыць публічна Патолічаву.

Гэтай прычынай зьяўляецца бясспрэчна масавы супраціў беларускага сялянства й сабатаваньне зьненавіджаных для яго калгасаў, разам з гэтым — сабатаваньне й пасыўны супраціў супраць усяе савецкае сыстэмы.

Падагульняючы ўсё вышэй сказанае, варта адцеміць, як-жа іначай выглядаюць у запраўднасьці тыя гігантычныя тэмпы індустрыялізацыі Беларусі, пасьпяховае разьвіцьцё калгаснага ладу, павышэньне жыцьцёвае ўзроўні беларускага калгасьніка й работніка й наагул усё тое «радаснае й шчасьлівае жыцьцё» пад «сонцам Сталінскай канстытуцыі» ад таго, аб чым бесьперапынна крычыць савецкая прапаганда, гавораць сотні тысячаў агітатараў, расьпісвае савецкае прэса ды, крычыць кажны дзень Менскае радыё!

**Ст. Крушыніч.**

# З новым навучальным годам

Новы акадэміцкі год у Лювэне распачаўся дня 6. 10. 52. Горад, якога чацьвертую частку насельніцтва твораць студэнты, аджыў ізноў. Вуліцы запоўніліся моладзьдзю й прысутным ёй вясёлым сьмехам і крыкамі. Кругом сябры. Якжа ня прывітаць калегу, які ідзе дзесьці другім бокам вуліцы, хоць-бы прышлося й крыкнуць, як не запрасіць яго на шклянку піва, у кіно ці на партыю брыджа.

Забурліла жыцьцё і ў Беларускім Студэнцкім Доме. Больш шчасьлівыя вярнуліся з вакацыяў, менш шчасьлівыя — з манастыроў, пакоі запоўніліся й БСЗ у Лювэне, студэнты зрабілі новы старт у новы навучальны год. Шчасьці Божа! Відаць шмат новых абліччаў т. зв. фуксаў, некаторых-жа із старых, на жаль, больш ня ўбачыш. Паколькі вясёлым бывае пачатак, пастолькі сумным часамі бывае канец. Аднак-жа падлічыўшы ўсё, што было зроблена, агульны рэзультат ня ёсьць незадавальняючым, наадворот, ён ёсьць даволі ўдалым. З агульнага ліку студэнтаў беларусаў, што былі запісаны ў леташнім навучальным годзе на Унівэрсытэце — 33, падчас году пакінулі студыі 2. З апошніх 31, што прыступілі да іспытаў — у першай ці другой сэсыях — здало іспыты 24. 7 чалавек, ці інакш 22,58% «праваліліся». Зь іх 3 выехалі на іншыя ўнівэрсытэты (Нямеччына, Гішпанія і Льеж — Бэльгія), 1 застаўся ў санаторыі Эўпэн, 1 пайшоў на працу, а апошніх 2 маюць паўтараць год. На мейсца выехаўшых прыбылі ўжо новыя студэнты: з Англіі — 3 і з Францыі — 1.

Дзе прычыны, што аж 7 чалавек іспытаў ня здалі? Іх ёсьць шмат. Кажнаму хоць крыху абзнаёмленаму зь лювэнскім унівэрсытэтам ёсьць ведама, што першыя 2 гады студыяў, а асабліва першы, ёсьць найцяжэйшымі. Унівэрсытэт ёсьць перапоўнены (звыш 9.000 студ.). Дзеля гэтага вядзецца войстрая элімінацыя. Звычайна на першым годзе «зразаюць» 50 — 70%. Частка зь іх паўтарае год, некаторыя мяняюць унівэрсытэт, а другія кідаюць яго назаўсёды, шукаючы сабе іншых шляхоў у жыцьцё. Летась зь беларускіх студэнтаў было на першым годзе аж 17 чалавек. Зь іх 12 здалі іспыты, а 5 «праваліліся», 2 апошніх з другога году студыяў.

Як бачым лік ня здаўшых першагоднікаў у нас — 29,41% ёсьць далёка ззаду ад агульнаунівэрсытэцкага — 50—70%. Далейшаю прычынаю ёсьць тое, што пачынаючыя студыі беларусы былі доўгі час адарваныя ад навукі. Ім прыходзілася цяжкаю фізычнаю працаю — якая, зразумелая рэч, нічога супольнага з навукай ня мела — зарабляць штодзённы хлеб. Дзеля гэтага сюды магчыма трэба было-б залічыць і некаторы недахоп сыстэматызацыі й плянаваньня працы пачынаючых. Аднэй з галоўных прычынаў было няведаньне францускае мовы. Кажнага слова прыходзілася шукаць у слоўніку. Гэты недахоп адчуваецца найбольш на гуманістычных прадметах, куды пайшла большая частка нашых студэнтаў. Другія прычыны, як рамонт дому, які трываў аж да 25-га сакавіка, нагрузка грамадзкай працай і г. д. вялікай ролі ў непаводзінах на іспытах ня згулялі. Характэрная рэч, што тыя, што займаліся грамадзкай працай, іспыты здалі. Ясная рэч, што калі-б заданьнем беларускіх студэнтаў была толькі навука, дык рэзультаты былі-б шмат лепшымі. Замест 2 выдатнікаў, іх, магчыма, было-б 10. Але-ж каб не грамадзкая, культурная і сацыяльная праца, якую вядуць нашыя студэнты сярод беларускіх работнікаў у Бэльгіі, часткава ў Францыі, ды ў Нямеччыне, ці патрапілі-б яны стварыць так прыязную для сябе й нашых нацыянальных ідэалаў атмасфэру сярод афіцыяльных шырокіх грамадзкіх і мясцовых унівэрсытэцкіх кругоў Бэльгіі? Трэба сумлявацца.

Вось перагляд распадзелу беларускіх студэнтаў Лювэнскага Ўнівэрсытэту паводля факультэтаў і гадоў навучаньня. Стан бягучага акадэміцкага году — 1952/53. Стан на 12. 10. 1952.

| Назоў факультэту ці інстытуту | Гады навучаньня | | | | | |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| Лік студэнтаў | 1 | 2 | 3 | 4 | 6 | 7 |
| Палітычныя й сацыяльныя навукі | 2 | 5 | 3 | | | |
| Гісторыя | 1 | | 2 | | | |
| Гісторыя мастацтва | | 1 | | | | |
| Псыхалёгія | 1 | | | | | |
| Права | 1 | | | | | |
| Гандлёвы | 1 | 2 | | | | |
| Мэдыцына | 1 | | | | 1 | 1 |
| Аграномія | 1 | | | | | |
| Хімія | | 1 | | 1 | | |
| Геалёгія | | | | 1 | | |
| Інстытут Фізычнага Узгадаваньня | | 1 | | | | |
| Інжынерыйныя навукі (Палітэхніка) | 1 | 2 | | | | |
| Школа лябарантак | | | 1 | | | |
| Электратэхнічны Інстытут у Льежы | | 1 | | | | |
| Разам | 8 | 13 | 7 | 2 | 1 | 1 |

паводля гадоў навучаньня

Агульны лік студэнтаў можа яшчэ крыху пераменіцца ў сувязі з магчымым прыездам новых кандыдатаў.

З 32 усіх студыюючых ёсьць 3 дзяўчыны й 29 хлапцоў. Пачынаючы ад бягучага году з прычынаў чыста эканамічных студэнткі жывуць у Беларускім Інтэрнаце для дзяўчат. Харчуюцца яны ў студэнцкай беларускай сталоўцы разам з студэнтамі. Студэнты, за выняткам двух, жывуць у Беларускім Студэнцкім Доме.

Сярэдні век беларускага студэнта ў Лювэне выносіць 26—34 гадоў. Аднакжа гэты век розьніцца ад асобы да асобы. Ён зьмяняецца ад 18 да 39 гадоў. Большая частка студэнтаў маюць ад 25 да 29 гадоў.

Што адносіцца да навукі, дык трэба сказаць, што ўсе факультэты Лювэнскага Унівэрсытэту ёсьць аднолькава цяжкімі. Ці гэта была-б мэдыцына, хімія ці якая небудзь «трапалёгія» — як тут звыклі называць гуманістычныя факультэты, кругом вымагаецца працавітасьць, стараннасьць і веды, веды перадусім. Літасьці падчас іспытаў няма, так як няма тэндэнцыі «зразаць».

На бягучы год Акадэміцкім Камітэтам ёсьць прызначана для беларусаў 29 стыпэндыяў у вышыні 2.000 б. фр. у месяц (40 ам. даль.); гэтая скромная сума павінна хапіць на аплату за навуку, падручнікі, лябараторыі, памешканьне, харчаваньне, вопратку. Кажнаму студэнту і студэнтцы выплачваецца на рукі, як кішэнныя грошы — 200 фр. месячна, зь якіх пасьля адцягненьня складак на розныя арганізацыі астаецца 186 фр. Гэтых грошаў павінна хапіць на папяросы, мыла, ножыкі да галеньня, а часамі й на кіно.

Камітэт Дапамогі Беларускім Студэнтам знаходзіцца сяньня ў стадыі рэарганізацыі. Гэтая вельмі важная для нас арганізацыя, якая існавала да нядаўнага часу толькі дэ факто, ёсьць цяпер зацьверджанай міністэрствам юстыцыі й мае свой статут. Ягоны афіцыяльны назоў наступны: «Камітэт Дапамогі Беларускім Студэнтам Лювэнскага Ўнівэрсытэту — Камітэт Кардынала Тысэрана.» Адным з закладчыкаў і дзейным сябрам гэтага Камітэту зь беларускага боку ёсьць др. Б. Рагуля. Ад бэльгійцаў закладчыкамі й сябрамі гэтага Камітэту ёсьць шырака ведамы нашаму грамадзтву, душа беларускага студэнцкага асяродку ў Лювэне, айцец Робэрт ван Кавэлярт і праф. В. Дэні.

Вось некалькі кароценькіх дадзеных аб беларускім студэнцтве ў Лювэне й ягоных дасягненьнях у галіне навучаньня. Не гавару тут аб другой галіне дзейнасьці, якая займала й будзе займаць шмат часу й высілкаў — сацыяльнай і нацыянальна-культрунай. Аб гэтым «Бацькаўшчына» друкувала шмат паасобных справаздачаў і артыкулаў. Адныя зь іх рэальна адбівалі гэтую працу, другія, як «Зважай, раўняй на Лювэн» паніжалі беларускага студэнта ўваччу нашага грамадзтва на эміграцыі. «Зважаць на Лювэн» трэба было-б ня дзеля таго, што тут «ляпаюць машынкі», спрачаюцца аб Палесьсі, дзяўчатах, ці проста п'юць піва. «Зважаць на Лювэн», а часамі мо й «раўняць», трэба было-б дзеля таго, што тут студэнты, апрача ўпорыстай і цяжкой працы над сфармаваньнем свайго «я» й павышэньнем сваей інтэлектуальнай узроўні, вядуць таксама працу там, дзе толькі маюць нагоду й магчымасьць: і на ўнівэрсытэцкім і на грамадзкім груньце. За гэта тут іх і цэняць і на іх «зважаюць».

Лювэн, 12. 10. 1952. **А. Ар.**

**ПАПРАЎКА**

**У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» з прычыны карэктарскага недагляду быў апушчаны пад артыкулам «Сталінізм лечаць і будуюць» аўтарскі подпіс, які павінен быць наступным: «М. Карэніч».**

# Саветчыкі палююць на людзей

Як падала ангельская прэса («Дэйлі Тэлеграф», «Ёркшыр Обсэрвэр», «Тэлеграф Аргус» і інш.), два працаўнікі савецкай амбасады ў Лёндане Сычев і Огороднев 14 кастрычніка сёлета наведалі горад Брадфорд (акруга Ёркшыр), дзе знаходзіцца каля 6.000 дабравольных работнікаў з-за зялезнай заслоны, у тым ліку й шмат беларусаў. Яны наведалі каля 40 памешканьняў уцекачоў з краінаў Савецкага Саюзу, пераважна ў час, калі мужчыны былі на працы, і намаўлялі да павароту ў Савецкі Саюз, заяўляючы, што пра гэта іх просяць іхныя сем'і й сваякі на бацькаўшчыне. Упаўнамочаны брытанскага міністэрства замежных справаў падаў да ведама прэсы, што дзейнасьці прадстаўнікоў маскоўскай амбасады прысьвечана спэцыяльная ўвага і ў гэтай справе вядзецца сьледзтва. Як выясьнілася, пра падарожжа гэтых двух савецкіх агентаў у Брадфорд былі загадзя павядомленыя адпаведныя ўлады, бо дыпляматычным прадстаўніком Масквы й яе сатэлітаў ад 10 сакавіка сёлета абмежаваныя разьезды ў гэтай краіне да прастору радыюсам 25 клм. ад г. зв. «Гайд Парк Корнэр» у Лёндане.

Асабліва абурэньне сярод уцекачоў выклікала выясьненьне кансулярнага аддзелу савецкай амбасады ў Лёндане, якое было зьмешчанае ў мясцовай прэсе. Кансулярны аддзел выясьніў карэспандэнтам, як-бы працаўнікі савецкай амбасады наведвалі ўцекачоў на просьбу іхных сем'яў, пражываючых у Савецкім Саюзе, якія хочаць іх нагаварыць да павароту. Адрасы ўцекачоў быццам таксама мае амбасада ад іхных сем'яў. Прадстаўнік амбасады дадаў, што савецкі ўрад хоча даць «сваім грамадзянам» усякую помач, «каб памагчы ім вярнуцца да дому і іхных сем'яў». Ён засьцярогся, што амбасада цікавіцца толькі ўцекачамі з СССР, бо «палякі й чэхі яе зусім не абходзяць», бо маюць свае собскія кансулярныя прадстаўніцтвы.

У сувязі з гэтым віцэміністар замежных справаў лёрд Рыдынг асьветчыў: «Запэўняю ўцекачоў, што яны карыстаюць з поўнай ахароны брытанскіх судоў і што ніякая чужая ўлада ня можа іх самавольна змусіць пакінуць Вялікабрытанію паміма іхнае волі.» «Паўтараю, заявіў ён далей — што ўцекачы ня мусяць прыймаць такога роду візытаў і павінны безадкладна заяўляць паліцыі, калі ўважаюць, што прабуюць зрабіць на іх націск.» Ён-жа таксама заявіў, што савецкая амбасада ў Лёндане атрымала ў гэтай справе папярэджаньне.

У вабароне ўцекачоў асабліва шчыра й актыўна выступіў сябра парляманту з акругі цэнтральны Брадфорд сп. Вэбб М. П. і інтэрвэньяваў у гэтай справе ў міністра замежных справаў Ідэна. А 26. 10. 52 ў Украінскім Доме ў Брадфорд сабраліся прадстаўнікі беларускае, латыскае, летувіскае, эстонскае і ўкраінскае арганізацыяў і вынесьлі спэцыяльную падзяку сп. Вэббу за ягоную абарону ўцекачоў перад савецкімі агентамі. Гэтая падзяка была яму перададзеная ў пісьменнай форме коратка перад распачацьцем сацыялістычнага мітынгу, на якім быў прысутным і сп. Вэбб. На мітынгу сп. Вэбб у першую чаргу парушыў пытаньне ўцекачоў у Брадфордзе і загарантаваў, што «будзе моцна абараняць правы няшчасных людзей, якія выбралі свабоду й працуюць з намі, так што й права іхнае павінна быць роўнае нашаму».

**Я. К.**

# Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:**
   Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:**
   **The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:**
   Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
   або:
   U. Kastelan
   53, rue Leon Salembien
   Tourcoing (Nord), France
4. **У З Ш А:**
   Mr. B. Danilovich,
   222 Suydam St. New Brunswick, N. J. U.S.A.
5. **У Канадзе:**
   Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:**
   Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:**
   Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:**
   Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:**
   Mr. Karanieuski Marian,
   R. N. Z. A. F. Station
   Taieri. Otago. New Zeeland.